## Апавяшчэньне 17.

Усялякія аглашэньня аб інстытуцыях асьветы (аб пачатках навук у школах, адкрыцьці курсау, прыняцьці запісау і т. п.) павінны быць папярэдня зацьверджаны Школьным Аддзелам у Урадзе Намесьніка Гэнэральнага Камісара (Падгорная, 14).

Намесьнік Гэнэральнага Камісара Усходніх зямель на Менскі Округ:
Ул. РАЧКЕВІЧ.

Адміністрацыйны Кіраунічы Справамі: МЕШЧАНОУСКІ.

Менск 21 жніуня 1919 г.

ца. абы была ахвота і рэяльная магчымасьць. Тут ужо сапраўды. хто „кія ўзяў, той і капрал“.

Не далей, як сёлета-ж, зімою, тые-ж самые селяне Меншчыны прасілі бальшавіцкіх камісараў прылучыць іх да Маскоўшчыны, калі бальшавікі, дзеле свайго політычнага махлярства, абвесьцілі Беларусь незалежнай «советской республикой». Яны гэтак сама-ж зьбіраліся на сходы, слухалі аратараў, рабілі пастановы, давалі свае подпісы, а часам ставілі крыжыкі,—словам, рабілося ўсе, што вымагаецца густам дэмагогаў. А ці-ж гэта мае які-небудзь сэнс і цану? Не, народ ня ведае, што робіць, а з гэтага карыстаюць нанятые нясумленные людзі.

Пры такім становішчу іншае рады няма, як пусьціць у народ яго ўласную інтэлігэнцыю. Яна, як найлепш, паразумеецца з ім, адчыніць яму вочы і выведзе на сапраўдную дарогу.

Польская інтэлігэнцыя і політычные дзеячы, пераяжыўшые разбор свае Бацькаўшчыны і нацыянальны гвалт, павінны зразумець, што ўсё-ж роўна, раней, ці пазьней, народ прасьнецца і усьвядоміцца. І, зразумеўшы, што яго падманулі ў пору яго нацыянальнага дзяцінства,—конец-концам з ім можа стацца тое, што цяпер, на нашых вачох, робіцца ў В. Сылезіі паміж пакрыўджаным польскім насяленьнем і немцамі.

Нам трэба супольнага, *братэрскага сужыцьця*, а гэта магчыма толькі тагды, калі народ сьвядома чыніць політычные крокі і выбірае сабе сябра.

---

## Політычная нясьпеласьць.

Калі камэдыянт у цырку паказвае сальтомортале (куляецца ў паветры праз галаву), дык ён усё-ж такі размяркоўвае зрабіць гэта так, каб не зламаць сабе шыю ды не расквасіць чэрап. Але часамі здараецца няшчасьце і адважнаму рызыканту бывае дрэнна. Нават, горш яшчэ: небарака, разсадзіўшы лоб, накладае галавою, а сытая публіка нат' і не зжахнецца, бачучы няшчасны труп яго сярод арэны.

Нешта, крыху падобнае, сталося ў нашым Горадне з ахвотнікамі да політычных сальтомортальў.

Адна з політычных груліровак, выдаючы ў Горадне беларускую газэту „Родны Край“, зьмясьціла ў ёй артыкул, які праўдзівей было б назваць бунтарскаю адозваю, размяркаванаю на пэўны політычны шумок ды толькі таго. Але выйшла куды горш, як думалі сабе політычныя (барані Бог, ня цыркавыя) камэдыянты. Улада, прыкрыўшы газэту, прыкрыла разам з тым і ўсю работу з'арганізованых ў Горадне беларусаў. Нас дзівіць гэта юнацкая рызыка маладых беларускіх дзеячоў, здольных, як відаць, пісаці даволі страшные адозвы, не раскумякаўшы як трэба, якія з гэтага могуць быць рэзультаты.

Дык вось і маем сабе. Гарадзен! наш сівы, стары, як сама гісторыя славян, векавечны Горадзен застаўся немым, бяз духу і голасу нашага, праз нетактоўнасьць аднаго-двох маладых хлапцоў.

Але чаму-ж гэта так? Чаму за імпат двох юнакаў павінны адказ трымаці ўсе нашые арганізацыі Горадзеншчыны. Чаму яны змушаны спыніці працу ды маўчаць? Дык жа-ж ніхто ніколі ня спыняе работы толькі праз тое, што скруціў сабе шыю адважны сальтомортаігісты?

Разгледзіўшыся, і тут ня знойдзем занадта вялікага дзіва. Газэту падпісваў „рэдакцыйны колектыў“, адказнага рэдактара, як бачым, ня было й пры гэткім палажэнні, праводзячы на шпальтах газэты свае вузка-партыйные, ортодоксальна-бунтарские тэндэнцыі, нашые „артысты“ з „Раднага Краю“ добра не размяркавалі і сальтомортале не ўдалася. Але якое мелі права яны выклікаць рэпрэсіі на цэлы беларускі рух у Горадне за гэту іх групавую рызыкоўнасьць і дарэмны енк. Істэрыка аднэй політычнай груліроўкі пад маскаю „рэдакцыйнага колектыву“, натуральна, выклікала рэпрэсіі на ўвесь беларускі Гарадзен. Дасталося і „колектыву“ і карэктару, дасталося і дзе-каму іншаму, хто можа й ніякага дачыненьня да спрытнага „колектыву“ ня меў.

Не,—дарагіе сябры! Рэзультаты гэта дрэнные. Найгоршы рэзультат, што Горадзен зьнямеў, ён змушаны маўчаць. І жарты гэта дрэнныя. Калі вы маеце адвагу і ахво-

---

## Роднаму краю.

Край мой радзімы, зьнішчаны, зьбіты,
Зьліты крывёю, сьлязьмі абмыты,—
Дзе-ж твае месты, дзе твае сёлы?
Дзе-ж тваіх дзетак песьня вясёла?
Увокал пустыня й сьляды пажарау;
Пасекі з'места лясных абшарау;
У ямах—акопах нівы і пашы;
Горы—магілы ворага й нашы.
Нашы касьцёлы зрыты з зямлёю;
Памяткі нашы сплылі з вадою;
Скарбы народу ў зямлі схаваны;
З гнёздаў радзімых людзі сагнаны;
Па ўсіх дарогах косьці людзкіе,
У грузах палацы й замкі былые.
Трупы, калекі, удовы, сіроты,
Мільён бяздомных, мільён беднаты!..
То сумны вобраз роднага краю!
Гэта здабытак вайны звычаю!..
Край мой радзімы, горам забіты,
Ці-ж доўга будзеш Богам забыты?!...

1915 г. Ю. Ф.

## Кароткая гісторыя
### культурнага жыцьця беларускага народу.

II.

У які бок жыцьця ня глянем, скрозь угледзім, як орыгінальна і сваякшталтна склалаў сваю культуру народ беларускі.

Скрозь, на ўсё налажыў гэты народ сваю знаку,—азнаку багатай культуры і вялікага таленту. Возьмем яго *песьню*. Яе утварыў народ наш такою, як ніхто з іншых народаў. Нашы песьні,—гэта ціхі сум, нялюдзкая скарга на сваю горкую долю,—гэта прызнаецца ўсім сьветам. Адны ўжо словы нашае народнае песьні сьціскаюць сэрцо нястрыманым жалем, напрыклад:

Хаджу, блуджу, хаджу, блуджу,
Як то сонцо у крузе!
Куды пайду, ці што раблю,
А усе сэрцо у тузе.

Палавіна лет мінае,—
Я шчасьця ня знаю,
Як-жа я мне Бог прызначыў,
Што чыніці маю?!

Вось што пішуць пра беларускую песьню чужынцы. „Беларусы любяць песьні і многа сьпяваюць,—гаворыцца ў прадмове да кнігі, выданай Расійскім Географічным Таварыствам“ „Гомельские народные песни“, запісаные З. Радчанка.—„У сьвята і ў будні, на вячорках і на рабоце, вясной і летам, увосень і навет зімой, на адкрытым паветры, заўсюды чутны іх песьні... Наагул, чуецца нота бедная, але стройная; монотонна-журбоўная, але мілая і заўсюды прыца-

зьнішчыў жалезнадарож. мост на Бярэзіне.

—·—

**Паустанне у Верхняй Сылезіі**

КРАКОЎ, 23 жніўня. «Kurjer illustrowany» паведамляе з Сосноўца ад 22 гэт. месяца, што паўстанне ў Верхняй Сылезіі не аслабело. Барацьба паўстанцаў з «Reichswerem» цягнецца на ўсім паўстаўшым абшары. Паўстанцы бьюцца з гэтакай пагардаю да сьмерці і заўзятасьцю, што напр. з ручнымі гранатамі нападаюць на самаходы і паезды панцырныя. Найлепей трымаюцца паўстанцы ў пав. рыбніцкім, пшчынскім і гліўіцкім. У некаторых валасьцёх бьюцца кабеты і дзеці.

—·—

Старшыня польскіх міністраў Падэрэўскі пераслаў да Сосноўца, на самые пільные патрэбы ахвяроў прускага гвалту ў Верхняй Сылезіі, паўмільёна марак з фундушоў, складзеных польскімі выхадцамі ў Амэрыцэ.

—·—

**Нямецкіе расійцы.** «Głos Litwy» цікава інформуе аб расійскіх ахвотніцкіх часьцях на Літве: «Яны» паказаліся ў Куршанах 26 ліпня. Нямецкая жандармэрыя прыгатавала ім спатканьне і памяшканьне; да 3 жніўня 1500 «іх» зьмясьціліся ў Куршанах і акалічных дварох. Прывязлі з сабою 2 гарматы, 4 кулямёты і 1 мінолёт. Апрача некольківх расійскіх афіцэраў, войско тое не мае нямецкай формы. Большасьць салдатаў маюць на шапках расійскіе значкі. Большая часьць гэтага войска складаецца з надрэйнскіх і прускіх немцаў. Нямецкіе салдаты называюць гэтае войско «Russische Formazion». А расійцы называюць сябе часткаю вайскоў Лівэна. Гэтае войско увесь час адтрымвае зброю і адзежу толькі ад немцаў. Гэта факт, што іх глаўнакамандуючым зьяўляецца граф фон-дэр-Гольц, які камандуе часьцю т. зв. «Baltische Landeswer». 27 ліпня гр. Гольц прыежджаў ў Куршаны дзеля агляду войска і назаўтра вярнуўся ў Мітаву. Афіцыяльным камандуючым лічыцца палкоўнік Вірголіч і Белградк. Пэнсія выплачваецца нямецкаю ўладаю".

—·—

# Беларуская кроніка.

**Беларуская мова у праваслаўнай царкві.** У Вільні 10 жніўня у цэркві Сьвятой Тройцы, пры базыльянскім кляшторы падчас набажэнства, каторае адпраўляў Архірэй Элеўфэры, навука да людзей была гаворана па беларуску.

Ці ні пара было-б і Менскаму духавенству апомніцца?

**Беларуская мова у Касьцелі.** Беларуская мова у Касьцелі што раз, то пашыраецца. Казаньня па Беларуску гаворуцца між іншым ужо ў Лоняніцах, Ваўкавыскага павету, у Ідоўцы, Барадзенічах, Мошары — Дзісьненскага павету, у Барунах — Ашмянскага павету і др. месцох.

Вялікая чэсьць тым, хто прычыняецца да гэтае сьвятое справы.

**Асвабаджэньне Арцыбіскупа Роопа.** Заарэштованы у Пецярбурзі Каталіцкі Арцыбіскуп Рооп, вядомы прыхільнік і спагадчык беларусаў, дзякуючы захадам Папежа, звольнены з пад арэшту і жыве у Маскве. Апошніе часы у турме пастыр моцна хварэў.

**Беларускае войско у Літве.** Газэта „Nasz Kraj" паведамляе, што частка беларускага войска у Літве хацела блізка Друскенікаў перайсьці на тэрыторыю, занятую польскім войскам. Пераходу перашкодзіло літоўскае войско; паміж беларускім і літоўскім войскам завязаўся бой.

**Камісія магістрату.** У магістраце зложана камісія, якая мае пераглядзець назвы вуліц у Менску.

Добра было-б, каб вярнуць вуліцам іх даўнейшыя гістарычныя назвы, а частцэ надаць замест расійскіх—беларускія.

—·—

# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

Адчыненыя пры гімназіі Плятэр курсы польскае мовы бяруць 150 марак, або столькі ж рублёў з кожнага слухача за 6 тыдняў навучаньня. Для многіх самаучак у польскай мові, каторыя б хацелі лепей пазнаёміцца з гэтаю моваю, плата гэтая завысокая, бо шмат хто без службы. З другога боку і маючыя грошы ня могуць запісацца, бо няма вымену савецкіх грошай, керэнак і думскіх на царскія і маркі.

**З'езд праваслаўнага духавенства.** 2 верасьня мае адбыцца ў Менску з,езд праваслаўнага ,духавенства. Найважнейшым пытаньнем на з'ездзі мае быць пытаньне аб матэрьяльным стане праваслаўнага духавенства. Кіраўнікі арганізацый духоўных хочуць запрапанаваць на з'ездзі праэкт самаападаткаваньня, а так сама зварот да польскіх ўладаў аб дапамозе.

**Пропускі у Менск.** У Вільні, дзякуючы сучасным выпадкам, знайходзіцца каля 4-х тысячаў меськіх жыхароў, церплячых вялікія нідастаткі. Пропускі на Менск з Вільні і інш. мест для прыватных асобаў, выключаючы важныя здарэньня, не раней як праз месяц.

**Сярод чугуннікаў.** У зьвязку з разбурэньнем бальшавікамі Менскага ж.-д. вузла і варункамі, якія паўсталі пры яго адбудаваньні, сярод чугуннікаў налічаецца ня мала безработных. Яны спадзяюцца на выдачу ім пропускаў для выезду у Расію.

У такім-жа стане знайходзіцца і наагул шмат быўшых працаўнікоў у іншых установах расійскіх урадаў.

**Проціў квотніцтва і спэкуляцыі.** Пры Прамыслова-Гандлёвым Аддзеле Упраўленьня Менскага Округу пачаў працаваць урад па змаганьні з квотніцтвам і спэкуляцыяй. Урад мае мэтай бараніць насяленьне ад усялякага гатунку вызыску з боку гандляроў, дамаўласьнікаў і так сама паасобных адзінак.

Заданьнем Ураду ёсьць аздараўленьне гандлёвых адносін і абарона жыхароў Беларусі ад надмерных апэтытаў купцоў ваеннай формацыі. На чале Прамыслова-Гандлёвага Аддзелу стаіць п. Устыновіч, каторы спраўляе сваё абавязкі па Падгорнай вул. у д. № 14 і прыймае заінтэрэсованые асобы ад 10 да 12 г. з рана.

Праца Ураду па змаганьні з квотніцтвамі і спэкуляцыяй можа быць плённай толькі пры дапамозе грамадзянства.

**Аднаўленьне прамысловасьці.** Фабрыка дрожджаў Арона Чэртова у Менску адтрымала з Прамыслова-Гандлёвага Аддзелу дазваленьне на выраблянне дрожджаў. Фабрыка ужо ідзе і будзе прадаваць дрожджы па 30 рублёў царскай валютай.

Бровар „Богэмія" адтрымаў дазваленьне на вывар піва з зместам алькоголю ня больш як 6⁰.

Піво будзе выраблятца з прадуктаў, каторыя ў ніпераробленым стане ня могуць быць спажываны.

**Валюта.** Гэтымі днямі на Захараўскай і Койданаўскай вуліцах адчыняюцца за дазваленьнем уладаў дзьве меняльныя канторы, каторыя будуць меняць, ходзячыя у Менску грошы апрача „савецкіх" подлуг гэтакага курсу: Рубель „царскі" роўны 1 м. 10 ф. польскіх. Рубель „думскі" канторы будуць меняць на „царскія" рублі, альбо польскія маркі подлуг курсу Варшаўскай біржы падаванага штодня у Варшаўскіх газэтах. Рубель «керэнскі» на 25% ніжэй „думскага" рубля. За зьмену грошы канторы маюць права браць ня больш 1%.

**Урэгуляваньне цэнаў.** Як мы чулі, на гэтых днях мае быць выдадзены прыказ, маючы на мэці урэгуляваньне спраў у стасунку куплі і прадажы рэчаў і прадуктаў першай патрэбы, умеркаваньне цэнаў барацьбу з квотніцтвам і спэкуляцыяй.

*Рэдактар-выдавец*
*І. ЛУЦЭВІЧ.*

З дазвол цэнзуры
Друкарня Я. Грынблята, Менск.